 

## Сяброўства было кароткім

Пачалося яно менш як два гады назад з-за ветлівасці двух дзядуль — прэзідэнта Францыі дэ Голя і тадышняга канцлера ФРГ Адэнаўэра. Ветлівасць давяла да падпісання дагавору, які пацвярджаў узаемную вечную вернасць, супрацоўніцтва і дапамогу. Палітычнае становішча ў свеце і Эўропе спрыяла тады марам, нават фальшывым. Заціхала вайна ў Індакітаі, у Конга і Алжыры. Прэзідэнтам ЗША быў выбраны Кенедзі, а ў выніку намаганняў савецкай дыпламатыі свет набліжаўся да падпісання дагавору аб частковай забароне ядзерных доследаў. Лічыліся з магчымасцю далейшых крокаў у справе аслаблення міжнароднага напружання і раззбраення. Пры такім становішчы два старыя — дэ Голь і Адэнаўэр — адчулі сімпатыю адзін да другога, хоць абодва кіраваліся рознымі прычынамі. Прэзідэнту Францыі патрэбны быў гаспадарча моцны партнёр, саюз з якім мог бы давесці да стварэння ў Заходняй Еўропе міжнароднага арганізму, роўнага па сіле з ЗША. Францыя і ФРГ у рамках Заходнееўрапейскага саюза, або хутчэй у рамках Супольнага рынку хацелі стварыць фундамент сілы, якая б у будучыні выцесніла амерыканцаў з еўрапейскай сцэны.

Зусім іншыя імкненні меў Адэнаўэр. Галава бонскага ўрада проста баяўся, каб не заціхла халодная вайна, а ў выніку гэтага знікла бы прычына для вядзення рэвізіяністцкай палітыкі. Ва ўмовах аслаблення міжнароднай напружанасці Адэнаўэр, Штраус і фон Брэнтана хацелі толькі напалохаць амерыканцаў і перасцерагчы іх, што калі толькі яны зойдуць далёка ў мірных імкненнях, дык ФРГ прыме дэголеўскія канцэпцыі стварэння незалежнай ад ЗША Заходняй Еўропы.

У сапраўднасці ж, як вядома, усё выглядала інакш. Дэ Голь хацеў толькі бонскай гаспадарчай сілы, не даючы ў замен ніякіх палітычных абяцанак. Не падтрымаў нават становішча ФРГ у справе ўсходняй граніцы, нават сцвердзіў, што гэта граніца не можа быць зменена. У сваю чаргу Бон хацеў выкарыстаць Францыю толькі для шантажу ЗША.

Невядома, хто каго абдурыў. Праўдападобна, дэ Голь верыў у шчырасць заходненямецкіх абяцанняў. З другога боку, здаецца, прэзідэнт ЗША Джонсан таксама спалохаўся бонскага шантажу і таму паспяшаўся стварыць шматбаковыя сілы НАТО, будучыя аконцам для атамнага ўзбраення Заходняй Германіі. Калі гэта праўда, дык можна лічыць, што толькі кіраўнікі бонскага ўрада задаволены тым сяброўствам.

Па французска - заходненямецкім сяброўстве засталіся толькі ўспаміны. Пакуль што, — як піша заходні друк, — Парыж і Бон перажываюць перыяд халоднай стрыманасці. Як прычыну гэтага афіцыйны друк падае розніцу думак на тэму сельскагаспадарчай палітыкі ў Супольным рынку. Гэта таксама мае сваё значэнне. Францыя хацела б, на карысць сваіх плантатараў, быць галоўным пастаўшчыкам сельскагаспадарчых прадуктаў у Супольным рынку. А ФРГ не хоча адмаўляцца ад вядзення сваёй сельскай гаспадаркі і ад імпарту з іншых краін, бо гэты імпарт дае ёй магчымасць прадаваць у тыя краіны свае прамысловыя вырабы.

Аднак палітычныя прычыны існуючых супярэчнасцяў значна сур'ёзнейшыя. Несумненна, бонскі ўрад не падтрымаў дэ Голя. Францыя не атрымала ад ФРГ падтрымкі, каб стварыць заходнееўрапейскія сілы, незалежныя ад ЗША, якія б маглі канкураваць з Амерыкай. А Францыя не падтрымала Заходнюю Германію ў палітычных справах (напр., граніца на Одры і Нысе) і ў мілітарных (напр., атамная бомба, якую бонскі ўрад хацеў атрымаць і ад Францыі).

Супярэчнасці паміж былымі сябрамі ўсё больш паглыбляюцца. Абедзве дзяржавы пачынаюць рабіць на злосць адна другой на міжнароднай арэне. Напр., у выпадку Кіпру, дзе ФРГ падтрымлівае Турцыю, а Францыя — Грэцыю; у выпадку Індакітая, у адносінах да сацыялістычных краін і г.д.

Гавораць, што ад вялікай дружбы да нянавісці толькі адзін крок. Парыж і Бон знаходзяцца на дарозе, супрацьлеглай ад дружбы.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**




## ПАФАВАГ




На здымку: Гэты прыгожы электрычны лакаматыў зрабілі рабочыя ПаФаВага.

Вроцлаў — сталіца Ніжняй Сілезіі — багатай і незвычайна прыгожай зямлі, што раскінулася над ракой Одрай у супрацьлеглым да Беласточчыны кутку нашай краіны. Вялікі, стары і прыгожы гэта горад. Паглядзіце на карту. Чырвоныя жылы жалезных дарог выходзяць з Вроцлава аж у сямі асноўных напрамках. Нездарма 20 год таму назад гітлераўскія генералы ператварылі Вроцлаў у крэпасць. «Фэстунг Брэсляў, — гаварылі яны, — нас не падвядзе». І сапраўды, доўга, вельмі доўга трымаліся гітлераўцы ў сталіцы Ніжняй Сілезіі. А калі ўрэшце вымушаны былі пакінуць гэты стары славянскі горад, свае кіпцюры паказала шырока разбудаваная падпольная фашысцкая арганізацыя «Вэрвольф». Штодзень паўтараліся дыверсіі. Ацалеўшыя заводы пераўтвараліся ў разваліны. Такі лёс сустрэў самы буйны вроцлаўскі завод, на якім да вайны немцы рабілі трамвайныя і чыгуначныя вагоны. Завод быў адной вялікай гарой цэглы, бетону і жалезнага ламачча. У след за арміяй вызваліцельніцай з'явіліся ў Вроцлаве звычайныя людзі — працоўная армія. Пасля трох месяцаў ад заканчэння вайны на вуліцы Вроцлава выйшаў першы трамвай, а ў Варшаву, Лодзь і Катавіцы праз адбудаваны Грунвальдскі мост паімчаліся першыя цягнікі. Прайшло яшчэ 3 месяцы і пачала працу (пакуль што пад голым небам) **дзяржаўная фабрыка вагонаў** — ПаФаВаг.

У лістападзе 1945 года з гэтага завода ў шахты краіны адаслалі рабочыя першыя свае вагоны на вугаль. Пасля 3-х гадоў за завадскія вароты ўрачыста выехаў 10-тысячны вагон. Так распачаў сваё жыццё ПаФаВаг. Зараз працуе там 6 тысяч чалавек. Цяперашні ПаФаВаг прыпамінае даваенную нямецкую фабрыку толькі назвай, якая, дарэчы, не цалкам трапна ўжо адлюстроўвае ўсё тое, што зараз там прадукуюць. А прадукуюць вельмі многа. Каб захацелася каму купіць усё, што шасцітысячны калектыў ПаФаВага выпускае на працягу года, прыйшлося б заплаціць каля двух мільярдаў злотых.

ПаФаВаг сваімі вырабамі славіць імя нашай краіны ў шматлікіх дзяржавах свету. 2600 вагонаў курсуе па жалезных жылах далёкай Індыі, 4000 — у Чэхаславакіі, 1200 — у Югаславіі і ў многіх другіх краінах.

Апошнім часам ПаФаВаг перастаўляецца на выпуск электрычных лакаматываў для пасажырскіх і таварных цягнікоў. Некаторыя тыпы гэтых лакаматываў развіваюць хуткасць да 160 км у гадзіну. Гэтая навейшая прадукцыя звальняе дзяржаву ад пакупкі за мяжой дарагіх машын, за якія прыходзілася плаціць доларамі.

**СПОРТ**

## Алімпійцы на апошняй простай

Ужо толькі некалькі тыдняў засталося да адкрыцця XVIII летняй Алімпіяды ў Токіо. Штопраўда пакуль яшчэ не ведаем складу польскай алімпійскай зборнай каманды, але, аднак, вядома, што ў Токіо будзе стартаваць 140 нашых спартсменаў у 12 дысцыплінах.

Што зараз робяць кандыдаты да нашай алімпійскай зборнай каманды? Як праводзяць апошнія тыдні перад выездам у Токіо?

Лёгкаатлеты, пасля серыі стартаў у моцным міжнародным спаборніцтве, маюць зараз перарыў. Кадра рыхтуецца да апошняй перадалімпійскай праверкі, якой будзе сустрэча Польшча — ФРГ 12 і 13 верасня ў Калоніі. Наша зборная каманда падзелена на спецыялізацыйныя групы, трэніруюць у розных цэнтрах. Цудоўных поспехаў дабіліся польскія спартсменкі ў апошнюю суботу і нядзелю на мітынгу ў Будапешце Эстафета жанчын 4x100 м. вынікам 44,4 устанавіла новы рэкорд Еўропы, уступаючы толькі 0,1 секунды рэкорду свету. На гэтым жа спаборніцтве Клабукоўская выраўнала на 100 м — 11,3 рэкорд Еўропы, а маладая Кіршэнштэйн паправіла ў скоку ў даўжыню на 1 см рэкорд Польшчы. Атрымала яна 6.39. Такая доза фантастычных вынікаў з'яўляецца добрай варажбою перад стартам у Токіо.

Нашы штангісты трэніруюць зараз у Аліве. У мінулым тыдні стартавалі яны ў вялікім міжнародным турніры ў Гданьску. У час спаборніцтваў палякі ўстанавілі чатыры рэкорды свету. Спаборніцтва Зелінскага з Башаноўскім давяло рэкорд свету ў лёгкай вазе да галавакружнай граніцы 450 кг у трохбор'і.

У Цэтневе трэніруюць зараз усе баксёры, кандыдаты ў зборную алімпійскую каманду. Некаторым з іх апошняй праверкай добрай формы будуць дзве міжнародныя сустрэчы з ФРГ.

Немагчыма ў кароткім каментарыі апісаць усе спартыўныя дысцыпліны, у якіх спаборнічаць будуць нашыя зборныя каманды ў краіне «квітнеючай вішні».

**Л. ТАРАСЕВІЧ**

## НЕ ТАК ДАЎНО, АДНАК... 2)

## „ВЯЛІКІ КОЗЫР"

Уваход польскіх войск на тэрыторыю Заходняй Беларусі мясцовае беларускае насельніцтва сустрэла непрыхільна. Энтузіястычна вітала яго толькі беларуская інтэлігенцыя згуртавана вакол Віленскай Беларускай рады. Пілсудскі ў пісьме Падарэўскаму з дня 4.V.1919 г. інфармаваў: «Беларускі ўрад на нашым баку і гэта вялікі козыр». Гэты «вялікі козыр» павінен быў Пілсудскаму згуляць паслугу ў розыгрышу з эндэцыяй за ажыццяўленне федэральнай праграмы, якая прадбачвала аб'яднанне Польшчы, Літвы, Украіны і Беларусі пад гегемоніяй Польшчы, перад якой, дзякуючы гэтаму, мелі адкрыцца дарогі палітычнай і гаспадарчай экспансіі на ўсход. Як гэты козыр быў выкарыстаны ў практыцы?

На занятай тэрыторыі Віленшчыны адміністрацыйную ўладу даверана спецыяльна створанаму Цывільнаму праўленню ўсходніх земель з сядзібай у Вільні. Праўленне падпарадкоўвалася непасрэдна Пілсудскаму як галоўнакамандуючаму. Такое ўстаўленне залежнасці падыктавана было праўдападобна таму, каб не прадрашаць спосабу звязання занятых земляў з Польшчай. Генеральным камісарам усходніх земляў пачаткова быў Людвік Калянкоўскі, потым ліберальны польскі абшарнік палкоўнік Ежы Асмалоўскі. Намеснікамі Асмалоўскага былі набліжаны да эндэцыі граф Станіслаў Касакоўскі і прадстаўнік «крэсавых зуброў» Уладзіслаў Рачкевіч. Віленскай акругай кіраваў эндэк Караль Недзялкоўскі.

Персанальны склад ЦПУЗ у вялікай меры і прадухіліў спосаб праўлення і тэндэнцыі ў беларускай справе. Згуртаваная ў руках абшарнікаў улада неўзабаве выклікала незадавальненне і расчараванне беларускіх колаў. Звязаны з польскасцю тадышні міністр асветы Б.Н.Р. Вацлаў Іваноўскі ў мемарыяле ад 16.II.1920 г. сцвярджаў, што «агульным і найважнейшым злом ёсць тое, што амаль уся адміністрацыя знаходзіцца ў руках мясцовых памешчыкаў, людзей з каставымі перакананнямі, людзей адсталых, для якіх формы праўлення рускіх часаў mutatis mutandis рэч цалкам натуральная».

Класавую структуру ўлады ўсходніх земляў крытыкавала таксама польская апінія. Зындрам Касцялкоўскі, тадышні палітычны рэферэнт Літоўска - беларускага фронту, у рапарце галоўнакамандуючаму ад 4.XII.1919 г. пісаў «...так як мясцовыя памешчыкі вельмі часта займаюць высокія пасады, вельмі часта ствараецца на месцы карціна з часоў паншчыны, калі «пан» быў найвышэйшай і апошняй інстанцыяй. Падобна ацаніў становішча і начальнік Аддзела асветы ЦПУЗ Уладзіслаў Ліхтаровіч: «У Вільні я быў сведкам хутка адбываючагася працэсу грамадскага пераўтварэння памешчыкаў у бюракратыю». [1])

Гэта быў працэс непазбежны і адначасова створаны Пілсудскім, каб запэўніць сабе кантакт з левымі коламі грамадства і стварыць супрацьвагу ўплывам эндэцыі.

Па меры ўмацавання польскай улады на занятай тэрыторыі, множыліся выпадкі злоўжыванняў, грабяжоў, пагромаў яўрэйскага і беларускага насельніцтва, якія адбываліся пад лозунгам «ліквідацыі бальшавізма». Бачылі гэта ў вярхах. Нават у часе дыскусіі на пасяджэнні Прэзідыум Савета Міністраў 4.III.1919 г. «...выказваліся апасенні, што арганізаванне адміністрацыі на асновах вайсковай акупацыі на аўстрыйскі ўзор, ці аднаўленне там традыцыі бабруйскай акупацыі генерала Даўбур Мусьніцкага выклікала фатальныя палітычныя паслядоўнасці»[2]), аднак ніякіх канкрэтных крокаў не зроблена.

Увядзенне дарэвалюцыйных парадкаў усюды натыкала на супраціўленне. Гэтыя цяжкасці развязваліся паліцыйным шляхам. Фармаваўшаеся такім чынам становішча не спрыяла федэральнай тэндэнцыі ў справе палітычных беларускіх імкненняў. Пад уплывам няўдачы ў справе этнаграфічнай Літвы, сярод прыхільнікаў федэральнай праграмы пачалі таксама ўсё больш выразна намячацца разыходжанні. Частка прыхільнікаў федэралізма ставіла на беларускі нацыяналізм, другая даказвала зноў, што беларускія нацыянальныя аспірацыі штучныя і прадказвала палярызацыю амарфічнай беларускай масы на частку польскую і рускую. Паступова з-пад федэральнай праграмы пачалі вылазіць жаданні інкарпарацыі. Найбольш поўна адлюстраваў гэтыя тэндэнцыі артыкул Мар'яна Свяцкоўскага ў снежаньскім нумары «Усходу Польскі» з 1919 г. У артыкуле п.з. «За праграму ў адносінах літоўска-беларускіх земляў» пісаў ён: «Беларусы на захадзе сіл рэальных не маюць. Надта моцным пульсам б'е тут польская сведамасць і воля да самастойнай арганізацыі і ўмацавання тут польскага жыцця, каб маглі яны марыць аб дзейснай рывалізацыі ў гэтай частцы літоўска-беларускіх земляў з польскай куль-



 

 

## З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ

# ТАНЯ — СІРОТКА

...а бывалі выпадкі, калі Надзя мала не апарыла кіпетнем сваю дачку Таню, якая ўжо пойдзе ў трэці клас школы, бо мае дзевяць год. Штораз надыходзяць галодныя часы, і Таня ходзіць не еўшы. Людзі літуюцца, памагаюць пражыць — адзяваюць дзяўчынку, абуваюць, але што з таго, калі нядбалая матка не шануючы рэчаў даных для дзіцяці, ніколі не мые іх і не чысціць, а тое ўсё нішчыцца. Сама яна не мыецца, у чым ходзіць, у тым спіць — і дачкі не даглядае, не мые, што найбрудней выглядае ў школе. Ды яшчэ невядома за што Надзька катуе Таню — біла жалезным кручком ад печы, выганяла зімою з хаты босую на двор, кідала ў яе паленамі, мала не забіла.

Аднаго разу наказала ёй рэзаць сечку на заіржавелай сячкарні. Таня падала і плакала, а яна, Надзька, не дзівілася на гэта, толькі крычала і біла-лупіла. А калі бабуля старая стала бараніць унучку, тады Надзька схапіла сякеру і залямантавала: — Я вас усіх пазабіваю... калі вы нарэшце паздыхаеце!!!?

Дзіцё моцна перапалоханае і заікаецца, бо калісьці да таго збіла, што чуць не памерла. Вазілі да бабак — замаўлялі, ратавалі. Часамі дадуць суседзі дзіцяці або бабульцы што-лень з яды, то адбярэ ім Надзька і сама зжарэ, падла працiўнае. Спіць доўга, да гадзіны дзевятай, а сядзіць да поўначы — лянівая да працы, аж смярдзіць ад яе на пару крокаў.

Надзьчын муж пакінуў яе, не выжыў з такою гультайкаю. Плаціў ёй аліменты на дачку, але потым перастаў плаціць, відаць, пераканаўся, што ад тых аліментаў усёроўна не лягчэй дзіцяці роднаму, якое пры матцы мусіць быць.

Памаглі ёй і ўлады, далі работу і заробак адпаведны, але яна варочалася, як карова. Кіраўнік надта быў добры і не ганяў яе так да працы, але і тут ёй не спадабалася, і людзям надабрыдла сваімі плёткамі. Нарэшце сама кінула ўсё і ўвогуле не захацела рабіць. Начальнік не вытрымаў і проста сказаў ёй у вочы, што яна хоча адно грошы браць за нішто, нічога не рабіць, бакі грэць на сонцы і рук не папэцкаць, хаця брудная сама, бы кацмалух.

Нядаўна павятовая апека зліталася над ёю і яе дачкою бледнаю, дала Надзьцы такую работу на тры гадзіны працы ўдзень за трыста пяцьдзесят злотых у месяц, каб даглядала да смерці і гатавала есці старому Пятру. Як жа яна будзе яго даглядаць і карміць, калі сваю сямейку няшчасную хіба замучыць на смерць. Гэта ўсёроўна, як бы даверыць ваўку пільнаваць авец...

Па-мойму, трэба было б зрабіць гэтак: аддзяліць Надзьку адну і выслаць яе куды-небудзь на працу далёка, а Таняю і бабкаю хай апекаваўся б Надзьчын муж, які перастаў плаціць аліменты і ад Надзькі цягнуць аліменты. Бабка з унучкаю хоць аджылі б і мелі б спакойныя дні, а то чаўпецца ўжо невядома што на свеце — хоць ты яе жарні ў карк, але міліцыя яшчэ прычэпіцца за гэта.

...сірочае мае дзяцінства, бедная Таня...

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

## НА КІРМАШЫ



**Ужо восень. Сёлеташнія плады ў свіранах. Ёсць тады ў сялян чым гандляваць. На здымку: Кірмаш у Гайнаўцы.**

фота: В. Рудчык

## З ВІЗІТАМ ДА НАШЫХ ПРАШЧУРАЎ

# „ДАНБАС" КАМЕННАГА ВЕКА

Пра адну з цікавых старонак гісторыі старажытнага народа, які насяляў некалі сучасную Беларусь, расказала нядаўна ў газеце «Гродненская правда» старшы навуковы супрацоўнік Інстытута археалогіі Акадэміі навук Ніна Гурына.

Непадалёку ад цэментавага завода «Перамога» ля Краснага Сяла Ваўкавыскага раёна, піша яна, працуе археалагічная экспедыцыя Ленінградскага аддзялення Інстытута археалогіі Акадэміі навук СССР, узначальваемая аўтарам гэтых радкоў.

Вось ужо два летнія сезоны археолагі вядуць раскопкі першых і пакуль адзіных у СССР старажытных шахт па здабычы крэмня. Яны прабіты ў слаі крэйды пляменамі, якія жылі каля 4.500 гадоў назад.

Археолагі паступова пранікаюць у глыбокія вузкія калодзежы - шахты, прабіраюцца ў падбоі, выкапаныя ў крэйдавых сценах, прапаўзаюць па вузкіх падземных калідорах - штрэхах, якія злучаюць шахты. І ўсюды бачаць яны сляды ўпартай і цяжкай працы першабытнага шахцёра. Стоячы на каленях, кароткай рагавой матыкай выбіваў ён з крэйды крэмневыя канкрэцыі. Відаць, як нязручная пастава прымушала яго не раз паварочвацца і мяняць напрамак удара. Ад гэтага так глыбокія тут на пластах крэйды сляды матык і розная іх становішча. Тут жа сустракаюцца рэшткі той самай матыкі: то яе канец, зламаны, ды так і пакінуты ў сцяне, то частка дзяржання. Сляды сажы ад згарэўшай лучыны, выразна прыкметныя на белых крэйдавых сценах, а ніжэй — рэшткі самой лучыны, моцна абвугленай. На падлозе адной з шахт — маса тонкіх крэмневых кавалачкаў, атрыманых пры вырабе тапароў. Нарэшце і самі загатоўкі. А непадалёку — касцяная іголка. Яна, па ўсім відаць, служыла шахцёру для пачынкі скуранога мяшка, з дапамогай якога ўзнімаўся на паверхню цяжкі груз.

На прасторы, якая акружае цэментавы завод і сучасны пасёлак, знаходзілася некалькі тысяч шахт, велізарная частка якіх, на жаль, цяпер ужо аказалася знішчанай. Такая вялікая колькасць шахт і здзіўляючая аднастайнасць выраблямых тут тапароў указвае на тое, што гэта месца з'яўлялася свайго роду «Данбасам» каменнага века.

Складаная будова шахт сведчыць аб тым, што людзі ў выніку працяглай практыкі выпрацавалі ў сябе пэўныя ўяўленні аб тым, дзе залягае крэмень, і распрацавалі асноўныя прыёмы будовы шахт.

Шмат пакуль яшчэ не разгаданых тайнаў нясуць у сабе шахты. Аб некаторых баках дзейнасці чалавека, які выкапаў іх, даводзіцца толькі здагадвацца. Але сёння ўжо відавочна адно: на тэрыторыі Беларусі існуюць каштоўнейшыя археалагічныя помнікі, якія дазваляюць зразумець высокую ступень развіцця яе старажытнага насельніцтва.

# ПРАЦА РАСПАЧАТА І ШТО ДАЛЕЙ...

(Працяг са стар. 1)

разыходзіцца перад усім пра тое, што далей рабіць з «пашавымі абшчынамі», якія ўжо загаспадараваны і расце ўжо цудоўная трава.

Ці надалей маем спасваць традыцыйным спосабам. Практычны адказ павінны даць аграномы грамад і дзеячы рад, пры дапамозе Грамадскіх камітэтаў партыі.

Нельга ўжо наракаць на недахоп правілаў у гэтай галіне. Ёсць Сеймавы закон абавязваючы загаспадараванне сялянскіх абшчын пад кіраўніцтвам суполкі, пакліканай раней для гэтай мэты. Ёсць таксама зацверджаны ўзорны статут для спраў загаспадаравання сялянскіх абшчын, такім чынам можна ўжо з поўным размахам дзейнічаць, а тым часам у гэтым напрамку нічога не робіцца. Загаспадаравана і няхай там траўка расце, а што далей, як сарганізаваць спасванне, хто павінен чым заняцца, то пра гэта не за многа думаюць аграномы і рады нарадовыя.

Калі я спытаў дзеячоў грамадскай рады ў Старым Корніне: «што вы будзеце рабіць з загаспадараванай пашавай абшчынай?», то мне адказалі: «Яшчэ мы не ведаем, можа падзелім на дзялянкі пад выкас, а можа сарганізуем выпас жывёлы. Склічам сход і параімся з карыстальнікамі».

Не ведаю, што можна вырашыць супольна, калі дзяржаўныя правілы ў гэтым аб'ёме з'яўляюцца вельмі мала вядомымі аграномам і дзеячам рад нарадовых, а калі нават дзе-небудзь з'яўляюцца вядомымі, то неяк мала знаходзіцца аматараў, каб гэтыя правілы прыводзіць у практыцы.

Закон выразна ўдакладняе заданні адносна загаспадаравання «сялянскіх абшчын». Папершае, нельга дзяліць абшчын на ніякія індывідуальныя дзялянкі. Падругое, забавязваецца рады нарадовыя да арганізацыі суполак да спраў загаспадаравання сялянскіх абшчын.

У вёсках, дзе карыстальнікі адказваюцца ад удзелу ў арганізацыі такіх суполак, рады нарадовыя маюць права паклікаць такую суполку з установы, акрэсліць бюджэт і паклікаць праўленне суполкі.

Я падаў толькі фрагменты закону, але ўжо на аснове гэтых фрагментаў можна сарыентавацца, што напрамак дзейнасці выразна ўдакладнены і ніхто не мае ўпаўнаважання нарушаць гэтыя правілы. Паколькі мы маем праўныя правілы так выгадныя, хопіць трохі самастойнай думкі, а можна дабіцца ўласцівай мэты. Гэтай мэтай з'ўляецца вядзенне надалей супольнага выпасу рацыянальным спосабам.

Вяртаюся да прыведзенага прыкладу з вёскі Махнатае. Гэта хіба адзін з лепшых аб'ектаў да арганізацыі загоннага выпасу. Паша знаходзіцца ў адным камплексе, у форме амаль што прамавугольным, да таго склад жывёлы не з'яўляецца перабольшаным, таму што на адну эфектыўную штуку выпадае больш чым поў гектара.

У арганізацыі загоннага выпасу вялікую ролю павінен адыграць грамадскі агроном. Ён павінен дапамагчы сялянам сарганізаваць пераходныя пашы на ворнай зямлі на перыяд апрацоўкі супольнай пашы, як: прыстасаванне загонаў і агарожа, каляндар выпасу ў паасобных загонах, а таксама дагляданне і ўгнойванне паасобных загонаў. Дадаю, што на такія пашы ў патрэбную колькасць мінеральных угнаенняў ГС-ы павінны забяспечыць.

Я лічу, што для вёскі аплоціцца наняць пастаяннага кансерватара гэтых паш. Заданнем кансерватара было б дапільнаваць выпасу жывёлы ў загонах паводле ўстаноўленага календара, ладзіць пашкоджаную агарожу, даглядаць і ўгнойваць паасобныя пашавыя загоны. Кошты загаспадаравання, агароджы і дагляданне паш нясе суполка, якая на аснове апрацаванага бюджэту абцяжвае карыстальнікаў. Правілы абцяжвання карыстальнікаў могуць быць розныя. Па-мойму, найлепш аблажыць падаткам карыстальнікаў ад большай колькасці жывёлы.

З маіх вывадаў хіба выразна можна зразумець, што загаспадараванне пашавых абшчын без папярэдняга паклікання суполак разыходзіцца з мэтай.

Перш як прыступім да загаспадаравання пашавай абшчыны трэба раней паклікаць суполку, апрацаваць бюджэт даходу і выдатку, акрэсліць правілы карыстання пашы і толькі тады можна аддаць пашу да загаспадаравання. У адваротным выпадку кідаем грашовыя выдаткі ў цёмны, без прадбачаных гаспадарчых эфектаў і трываласці карыстання, а гэтага рабіць нікому нельга. Кожная залатоўка, уложаная ў меліярацыйныя інвестыцыі павінна даць акрэсленыя гаспадарчыя эфекты, а яны пэўныя толькі з умоваю, што будзе добрай арганізацыя працы сярод карыстальнікаў; за такую працу павінны паклапаціцца ПОП, гурткі ЗСЛь на вёсцы, КГ ПАРП і Рады нарадовыя супольна з агратэхнічнай службай.

**ВІТАЛЬД САПОЦЬКА**
Намеснік Загадчыка Зямельнага Аддзела КБ ПАРП у Беластоку.



 

